Наш адрас у Інтэрнеце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
19 ліпеня 2001 г.
№ 29 (525)
Кошт 105 рублёў

# Паводле дакументаў, абнародаваных 17-га ліпеня Ул. Ганчарыкам, Віктар Шэйман аддаў загад знішчыць Юрыя Захаранку. Таксама сталі вядомымі дакладныя месцы пахавання палітычных апанентаў Лукашэнкі — ахвяраў беларускага эскадрону смерці

Усе падрабязнасці на стар. 2

## Амаль 5 000 чалавек прэтэндуе на месцы ва універсітэтах

**Сёлета на 1 500 студэнцкіх месцаў, што здольныя прадаставіць абітурыентам тры гарадзенскія універсітэты, прэтэндуюць 4 900 чалавек, што складае 3,26 чалавека на месца і на сем працэнтаў больш, чым у мінулым годзе. Такую інфармацыю распаўсюдзіў у сераду Юрый Цвяткоў, адказны сакратар дзяржаўнай камісіі па кантролю за ходам дзяржэкзаменаў. Паводле яго звестак, камісія не зафіксавала яшчэ ніводнага парушэння падчас дзяржаўных іспытаў.**

У Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы найбольшы конкурс на факультэт «сусветнай эканомікі» - 8,33 чалавека на месца. Для параўнання: у мінулым годзе - 2,8. На адно месца факультэта «камерцыйная дзейнасць» у гэтым годзе ахвотных 8,27 чалавек супраць 3,5 у мінулым годзе.

Агульны сёлетні конкурс у Дзяржуніверсітэце складае 3,73 чалавека на месца, у 2000 - 2,4. Значна ўзрос конкурс і ў Аграрным універсітэце - 3,2 замест 2,5 чалавека на адно месца ў мінулым годзе. А ў Медычным універсітэце сітуацыя амаль не змянілася - 2,82 прэтэндэнты на адно месца.

У Медуніверсітэце, дзе іспыты з трох гарадзенскіх ВНУ пачаліся першымі, толькі 5 з 80-ці медалістаў здолелі здаць біялогію на «пяцёрку» і пацвердзіць свае медалі.

**Павал Мажэйка**



НАДВОР'Е

**20, 21 ліпеня** - пераважна без ападкаў, вецер паўднёвы, 5-10 м/с. Тэмпература паветра **20, 21 ліпеня** ўдзень +21...+26; уначы **20 ліпеня** +13...+18; **21 ліпеня** +16...+21.



## Пілігрымка за Домаша

**Беларусь жыве ў чаканні прэзідэнцкіх выбараў. Чакае іх з надзеяй на змены да лепшага, але таксама і з трывогай - ці будуць іх вынікі праўдзівымі. Відавочна, што ўлада рыхтуецца да маштабных фальсіфікацыяў - у выбарчыя камісіі нават не ўключылі прадстаўнікоў апазіцыйных партыяў і рухаў. Мільёнам выбаршчыкаў застаецца спадзявацца на назіральнікаў, у тым ліку міжнародных, якія будуць запрошаныя ў нашу краіну на пачатку восені. Але на наглядальнікаў спадзявайся, а пра Бога не забывайся.**

Марыя Лазненка з Драгічына вырашыла падмацаваць свае палітычныя спадзяванні незвычайным спосабам. Напачатку ліпеня з другімі вернікамі, прыналежнымі да драгічынскай каталіцкай абшчыны, яна выправілася ў пілігрымку да цудадзейнай іконы Маці Божай Будслаўскай. Паломніцы ішлі цэлы тыдзень, пераадолелі каля 200 кіламетраў. У кожнай былі свае патаемныя малітвы, просьбы да Усявышняга.

Спадарыня Марыя Лазненка на працягу ўсёй дарогі малілася за тое, каб наступным прэзідэнтам Беларусі быў абраны Сямён Домаш. На яе думку, менавіта Домаш сярод двух дзесяткаў прэтэндэнтаў на высокую пасаду вызначаецца высокай хрысціянскай культурай, дасканала ведае Біблію, шмат зрабіў для вернікаў у сваю бытнасць на пасадзе старшыні Гарадзенскага гарвыканкама і аблвыканкама, у прыватнасці, вярнуў ім Каложскую царкву.

Але ў Марыі Лазненкі да Сямёна Домаша засталося многа пытанняў, на якія веранаму кандыдату ў прэзідэнты давялося адказаць падчас сваёй нядаўняй сустрэчы з сябрамі драгічынскай ініцыятыўнай групы. Сярод іх было і такое: калі Домаш стане Прэзідэнтам, на чым ён паклянецца - на Канстытуцыі, ці на Бібліі? Сямён Домаш прызнаўся, што падобнае пытанне яму даводзіцца чуць упершыню. Але яно вельмі сур'ёзнае, і патрабуе сур'ёзнага адказу. Спадар Домаш абяцаў падумаць.

На развітанне Марыя Лазненка благаславіла Домаша, пачаставала вішнямі з уласнага саду і сам-насам пра нешта расказала яму (на здымку). Ці не пра волю нябёсаў, якая адкрылася ёй падчас пілігрымкі да іконы Будслаўскай Божай Маці?

**Міхась Палескі**

## Убачым «Сон у летнюю ноч»

**20-21 ліпеня ў Гарадзенскім абласным тэатры лялек адбудзецца прэм'ера спектакля «Сон у летнюю ноч» паводле аднайменнай камедыі Вільяма Шэкспіра.**

Пастаноўку гэтай, як пазначана ў афішах, «легкадумнай камедыі для дарослых» ажыццяўляе рэжысёр Алег Жугжда, вядомы сваёй схільнасцю да філасофскай рэфлексіі ў галіне лялечнага мастацтва. Аматары тэатра ўжо здолелі ацаніць ягоную «Трагедыю аб Макбеце», якая атрымала шмат узнагародаў на міжнародных фестывалях.

У спектаклі «Сон у летнюю ноч» Алег Жугжда з дапамогай вядучых актораў тэатра, кампазітара Паўла Кандрусевіча і мастачкі Ларысы Мікінай узнаўляе таямнічую атмасферу старажытнай Грэцыі, дапамагае гледачу апынуцца ў знакамітых Афінах, казачным лесе, убачыць чароўных Эльфаў і закаханых, адчуць сапраўдную весялосць.

**Людвік Сарока**

## Гарачая лінія з Вінцуком Вячоркам!

**Паважаныя сябры! ПАГОНЯ распачынае серыю гарачых ліній з лідарамі палітычнага жыцця Беларусі. Мы мяркуем, што ў ходзе гэтай акцыі Вы зможаце задаць па тэлефоне пытанні, якія Вас цікавяць, найбольш вядомым і аўтарытэтным людзям нашай краіны. Іх імёны мы будзем вызначаць таксама і з улікам Вашых пажаданняў.**

Першай асобай, з якой сустрэнуцца чытачы ПАГОНІ, стане старшыня СоймуБНФ «Адраджэньне»

**Вінцук Вячорка,**

які ласкава пагадзіўся наведаць рэдакцыю нашай газэты.


Фота IREX/ProMedia

### Гарачая лінія з ім адбудзецца 23 ліпеня.

Для таго, каб з першых вуснаў пачуць адказы на пытанні, якія тычацца сённяшняга палітычнага становішча, сітуацыі вакол БНФ «Адраджэньне», выбарчай кампаніі. ТЭЛЕФАНУЙЦЕ **23 ліпеня з 12.00 да 14.00 на нумар тэлефона:**

- 72-29-96 (для гарадзенцаў)
- 0152-72-29-96 (для іншагародніх).

## Да рэкорду не хапіла градусаў

**Як бы вы гэтымі спякотнымі днямі не пацелі - а тэмпературны рэкорд гарачыні сёлета пакуль не пастаўлены. У ліпені гідраметцэнтр ў Гродне зарэгістраваў найвышэйшую тэмпературу ў 33 градусы па Цэльсію. Тады як максімальна гарачае надвор'е было ў нас амаль сто гадоў таму - 35,8 градуса па Цэльсію ў 1904 годзе.**

Праўда, сіноптыкі адзначаюць надзвычай высокую вільготнасць паветра - яна набліжаецца да 50 працэнтаў. Звычайна ў такія спякотныя дні гэтая самая вільготнасць не перасягае 30-ці працэнтаў - што чалавечым арганізмам пераносіцца значна лягчэй. А так даводзіцца ратавацца ад ліпеньскіх «тропікаў», хто як умее. Хто не ўмее - трапляе ў шпіталь з цеплавым ударам. У аўторак у гарадзенскім шпіталі хуткай дапамогі ўжо быў адзін такі пацыент. Астатнія ратуюцца спадручнымі сродкамі - марозівам, халоднай мінералкай, абліваннямі. Народныя рэцэпты раяць ужываць у гарачыя дні больш кіслай садавіны - парэчак, вішняў, апельсінаў, лімонаў. Нейкім чынам яны дапамагаюць арганізму адаптавацца ад спёкі.

Аднак, як і кожны год, у гарачыню не абыходзіцца без трагедыяў на вадзе. Тонуць часцей за ўсё купальшчыкі нападпітку і дзеці без нагляду дарослых. Толькі за два дні, 16 і 17 ліпеня, у вадаёмах Гарадзеншчыны патанула 12(!) чалавек. За ўвесь мінулы тыдзень патанула 13 чалавек. Спадар Міхаіл Балкоўскі, старшыня Таварыства выратавання на водах, перасцерагае, што патануць можна як у Нёманскай стрымніне, так і ў лужыне паўметра глыбінёю. У аўторак у такой «лужыне» на возеры па вуліцы Карскага патануў мужчына.

Аднак, зімой мы будзем узгадваць спякотны ліпень і чакаць сонца. Пакуль яно з намі - пагрэемся.

**Алена Сіневіч**

# Эскадроны смерці на Беларусі — не выдумка

**Не дачакаўшыся рэакцыі з боку Аляксандра Лукашэнкі, лідэр ФПБ, патэнцыйны кандыдат у прэзыдэнты Ўладзімер Ганчарык перадаў у аўторак журналістам копіі матэрыялаў, якія даказваюць прыналежнасьць ўладаў да дзейнасьці «эскадрону сьмерці», які зьнішчаў палітычных апанэнтаў цяперашняга кіраўніка дзяржавы.**

Паводле дакумантаў, распаўсюджаных Уладзімерам Ганчарыкам, Віктар Шэйман аддаў загад зьнішчыць Юрыя Захаранку Сёньня Ўладзімер Ганчарык агучыў зьмест дакумантаў пра зьніклых у Беларусі вядомых асобаў. Гэтыя дакументы, як прагучала на прэсавай канфэрэнцыі, даюць падставы падазраваць цяперашнія ўлады ў палітычных забойствах.

Уладзімер Ганчарык агучыў рапарт генэрал-маёра міліцыі Лапаціка, які той падаў летась 21 лістапада на імя міністра ўнутраных справаў Уладзімера Навумава. У гэтым дакуманце гаворыцца: «У дадзены час Шэйман даў указанне фізычна зьнішчыць былога міністра ўнутраных справаў Захаранку Ю.М. Інфармацыйнае забесьпячэньне месцазнаходжаньня Захаранкі для дзеяньняў Паўлючэнкі было забясьпечанае спэцпадразьдзяленьнем Васільчанкі Н.В. - указаньне, якое яму таксама даў Шэйман праз сваіх супрацоўнікаў. Акцыя захопу і наступнага зьнішчэньня Захаранкі была ажыцьцёўленая Паўлючэнкам, камандзірам роты СОБРа і камандзірам першай роты спэцназу ды чатырма ягонымі байцамі. 8 траўня 1999 году пісталет Паўлючэнка здаў Алкаеву. Паводле аналягічнай камбінацыі, 16 верасьня 1999 году Паўлючэнка правёў акцыю захопу і зьнішчэньня Ганчара В.І. ды Красоўскага А.С. Месца пахаваньня трупаў Захаранкі, Ганчара, Красоўскага - спэцучастак лягерных магілаў на Паўночных могілках», - сцьвярджаецца, як зазначыў Уладзімер Ганчарык, у рапарце генэрала Лапаціка, які на той час займаў пасаду начальніка галоўнага ўпраўленя крымінальнай міліцыі МУС. Яшчэ адзін дакумант, са зьместам якога пазнаёміў журналістаў Уладзімер Ганчарык - рапарт начальніка сьледчага ізалятара палкоўніка міліцыі Алега Алкаева. У ім, у прыватнасьці, размова ідзе пра адмысловы пісталет з глушыльнікам, якім выконвалі сьмяротныя прысуды і які, адпаведна дакументу палкоўніка Алкаева, двойчы, паводле ўказаньня тагачаснага міністра ўнутраных справаў Сівакова, запатрабаваўся дзеля нейкіх мэтаў. Першы раз пісталет выдалі 30 красавіка 1999 году, а вярнулі 14 траўня. Другі раз зброю выдалі 16 верасьня, а праз два дні, 18 верасьня, яе вярнулі Алкаеву. Уладзімер Ганчарык параіў зьвярнуць увагу на гэтыя даты і даты зьнікнення Захаранкі, Ганчара ды Красоўскага. Ганчарык:

- У асноўным гэта ўсё супадае. Выдаваўся пісталет Паўлючэнку ці не выдаваўся? Ён выдаваўся праз нейкіх асобаў, якія названыя. Мая вэрсія такая: гэта было, і людзі аддавалі каманды. Бо ніякае падразьдзяленьне без камандаў ня дзейнічае. Вельмі шмат супадзеньняў, і справа ўлады сказаць, што гэта так альбо не. У мінулую пятніцу Ўладзімер Ганчарык накіраваў усе гэтыя дакументы на адрас Аляксандра Лукашэнкі, але ніякага адказу ад яго не атрымаў. Камэнтуючы маўчаньне Лукашэнкі, ён зазначыў: Ганчарык:

- Гэта можа азначаць толькі, што ён вельмі занепакоены. Але пытаньне ў тым - ён занепакоены тым, як высьветліць ісьціну альбо як апраўдацца?

**Міхал Стэльмак,**
**Менск**

Беларуская служба радыё Свабода



**Фрагмент рапарта генерала Лапаціка міністру ўнутраных спраў Навумаву**

# Алег Волчак не выключае, што аўтар сэнсацыйнага рапарту Лапацік - за межамі

**Меркаваньне пра апублікаваныя Уладзімерам Ганчарыкам дакуманты Алега Волчака, кіраўніка грамадзкай камісіі расьследаваньня абставінаў зьнікненьня Захаранкі, Ганчара, Красоўскага і Завадзскага**

Волчак:

- Тое, што прадставіў Уладзімер Ганчарык на прэсавай канфэрэнцыі, - магу цьвёрда і пераканаўча сказаць, што дадзеным дакументам можна давяраць. Больш таго. Гэтыя дакументы пацьвярджаюць дадзеныя пракурораў Случака і Петрушкевіча. Мяркуючы па почырку, па тым, як пісаліся гэтыя рапарты, магу сказаць, што такім самым чынам і раней складаліся рапарты па іншых крымінальных справах. Па гэтым почырку будзе вельмі лёгка вызначыць таго чалавека, хто пісаў гэтыя дакументы. На сваёй апошняй прэсавай канферэнцыі я гаварыў, што бліжэйшым часам будуць яшчэ сенсацыйныя заявы, і вось Ганчарык іх прадставіў. Хачу сказаць, што Ганчарык паступіў мужна, калі абнародаваў гэтыя дакументы, разумеючы, што ні Лукашэнка, ні Шэйман, ні Навумаў не аддыдуць ад улады і будуць супраціўляцца ды казаць, што гэта ўсё не так. Я думаю, гэта не апошнія рапарты, і бліжэйшым часам будуць працягі, калі ня будзе адэкватнай рэакцыі ўладаў.

Цыганкоў:

*- А вы ня ведаеце, дзе зараз аўтар гэтага рапарту - Лапацік?*

Волчак:

- Сябры нашай камісіі спрабавалі знайсьці зь ім сувязь, але ён, відаць, ужо ня ў Менску. Гэтае прозьвішча ў нас усплывала яшчэ даўно, калі Случак быў яшчэ тут, і ў нашай камісіі курыраваў апэратыўную сувязь з інфарматарамі з КГБ, МУС. Тады ўжо праходзіла думка, што Лапацік быў неяк завязаны па справе Мікалуцкага, і, у прыватнасьці, па факце сьмерці галоўнага абвінавачанага Ткачова. Штосьці там было, і думаю, сам Лапацік калісьці пра гэта распавядзе.

Цыганкоў:

*- Хто, на Вашу думку, мог гэтую ўцечку інфармацыі стварыць? Гэта са сьледчага камітэту ці гэта з МУС? Хто мог даць Ганчарыку гэтыя дакументы?*

Волчак:

- Зараз даволі шмат людзей валодае інфармацыяй аб зьнікненьнях. І, натуральна, калі такія складаныя справы, хтосьці нехта ксеракапіруе, яшчэ нешта робіць. Мне складана сказаць, ад каго пайшло. Але, я думаю, гэта ідзе з нетраў міліцэйскіх, бо ў КГБ такіх папераў няма...

**Віталь Цыганкоў,**
**Менск**

Беларуская служба радыё Свабода



Фота IREX/ProMedia

· 1995 год. Захаранка і Шэйман. Тады яшчэ разам...

# Ці будзе 21 ліпеня названы адзіны кандыдат?

**Яшчэ 27 чэрвеня пяцёрка патэнцыйных кандыдатаў на пасаду Прэзідэнта Беларусі - Сямён Домаш, Уладзімір Ганчарык, Сяргей Калякін, Павел Казлоўскі і Міхаіл Чыгір - на сваім закрытым пасяджэнні прынялі рашэнне назваць да 15 ліпеня імя адзінага прэтэндэнта, які будзе супрацьстаяць Аляксандру Лукашэнку на маючых адбыцца выбарах. Аднак, узгаданая пяцёрка прызначыла новую дату - 21 ліпеня, адразу пасля афіцыйнага завяршэння збору подпісаў. У аўторак пазначаныя кандыдаты звярнуліся да палітычных партыяў і грамадскіх рухаў у сувязі з прынятым рашэннем устрымацца ад якіх-небудзь неўзгодненых з ёю дзеянняў па вызначэнню адзінага кандыдата.**

**ПАГОНЯ ў сваю чаргу звярнулася да лідараў партыяў і грамадскіх рухаў з просьбай даць каментар: «Чаму «пяцёрка» кандыдатаў цягне з вызначэннем адзінага кандыдата і ці будзе ён, на іх думку наогул вызначаны?**

Станіслаў Шушкевіч, **лідар БСДГ:**

- Усе, хто за вылучэнне адзінага кандыдата, маюць на ўвазе канкрэтную асобу. Але ўяўленне, што адзіны кандыдат павінны быць вызначаны, ёсць ва ўсіх. Гэта добра. Але праблема ў тым, што ва ўсіх гэтая адзіная кандыдатура розная. Чакаць, сапраўды, няма калі.

Ёсць пэўныя механізмы ўціску на пяцёрку, калі яна будзе цягнуць з вылучэннем. Напрыклад, пераключэнне на іншага, шостага кандыдата. А такія ёсць, і нічым не горшыя за «пяцёрку».

Прарокам быць вельмі цяжка, я хачу, каб адзіны кандыдат быў вызначаны 21 ліпеня, і я ўсё зраблю для гэтага.

Мікола Статкевіч, **лідар БСДП (НГ)**

- Асноўная прычына ў тым, што ўсё ж такі мы не ведаем вынікаў рэгістрацыі. Вызначыць адзінага цяпер, а пасля ўлада яго не зарэгіструе - пагадзіцеся, ёсць небяспека. А гульню пад назвай «Байкот» мы ўжо праходзілі.

Другая прычына - суб'ектыўная. Кандыдаты ўвязаліся ў бойку, на іх ціснуць уласныя каманды, таму яны, канечне, працуюць на перамогу. Ёсць яшчэ адзін момант. Многія кандыдаты ведаюць, што не здолеюць сабраць неабходных 100 тысяч подпісаў, таму рознымі спосабамі, штучна, завышаюць лічбу, каб пасля сказаць, маўляў, мяне не зарэгістравалі, я самы непажаданы для Лукашэнкі кандыдат.

Кандадыты - жывыя людзі, многія ўклалі на кампанію усё. Узяць хаця б гісторыю сям'і Чыгір, якая за два-тры апошнія гады ахвяравала ўласнай свабодай, грашыма. І ўсё ж, я упэўнены, што 21 ліпеня будзе названа імя адзінага кандыдата. «Пяцёрка» - гэта прыстойныя людзі, інтэлігенты, яны здолеюць дамовіцца, нягледзячы на тое, што ідзе палітычная барацьба.

Васіль Лявонаў, **лідар руху «За новую Беларусь!»**

- Прычына адна, пакуль слова, дадзенае «пяцёркай», што асабістыя амбіцыі будуць на другім плане, не апраўдваецца. Канечне, гэта супярэчлівы працэс, калі палітыкі разгортваюць працу штабоў, а пасля трэба выходзіць з барацьбы. Але, я думаю, што «пяцёрка» дамовіцца, і адзіны кандыдат будзе вылучаны 21 ліпеня.

Аляксандр Дабравольскі, **намеснік старшыні АГП**

- Мне здаецца, што кандыдаты хацелі праверыць, ці здолеюць яны сабраць 100 тысяч подпісаў. Хацелі даведацца, ці маюць яны шанцы балатавацца на пасаду Прэзідэнта. І яшчэ, у нас вельмі не любяць, калі нехта вырываецца наперад. Яму адразу ўсе пачынаюць перашкаджаць. Гэтым вельмі карыстаецца Лукашэнка. На сённяшні дзень ёсць два бясспрэчныя лідары - Домаш і Ганчарык, лідары і па сабраных подпісах, і па працы кандыдатаў. Я упэўнены, што 21 ліпеня адзіны кандыдат будзе вылучаны.

**Падрыхтаваў**
**Павал Мажэйка**




# Нам патрэбныя толькі правільныя караваны

**Канцэрт каравана «Пілігрымы», які планаваўся ў Гродне 15 ліпеня, не адбыўся.**

Канцэрт і ўсе акцыі культурна-асветніцкага каравана забаранiў гарадзенскі гарвыканкам з прычыны святкавання Дня горада. У адмове за подпісам Сяргея Анішчыка напісана, што «гарвыканкам не можа даць дазвол на правядзенне мерапрыемства, таму што 15.07.2001 года ў Гродне пройдуць святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя Дню вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў».

Гарадскія ўлады ўжо другі раз забараняюць акцыю Рэспубліканскай Моладзевай арганізацыі «Next Stop-New Life». Летам мінулага года быў караван «Наступны прыпынак - новы век», у рамках якога ў клубе «Stop-line» караваншчыкі хацелі зладзіць бясплатны канцэрт з перфомансамі.

**Алена Сіневіч**

## РЭЙТЫНГ

**Вось і зразумей, аб'ектыўнасці дзеля, супраць каго народ аддае свой голас. «Супраць вусатага!», кажуць, і усё. А вусатых у нас ажно тры: Гайдукевіч, Калякін і Лукашэнка. Дзякуй яшчэ, што хоць Крыжаноўскі сышоў. Таму, даводзіцца дапытвацца: супраць якога вусатагалысага, чарнявага ці з азіяцкім прышчурам.**

**Актыўнымі ў тэлефонным рэйтынгу ПАГОНІ па-ранейшаму застаюцца тры групы - домашаўцы, пазьняковцы і сініцынцы. Прычым, сініцынцам даводзіцца і калі-некалі хвасты накручваць. «Добры дзень «ПАГОНЯ!», я хачу прагаласаваць». «За каго?» - «За Сініцына». «Мужчына, Вы ж толькі што за яго прагаласавалі...». А ў адказ - цішыня. Прыхільнікі Сініцына, у сувязі са сваёй малакалькаснасцю (гл.рэйтынг) грашаць няшчырай барацьбой.**

**Лозунг "Галасуй, а не то не паспееш" акурат да месца ў сённяшнім рэйтынгу. Збор подпісаў завяршаецца 21 ліпеня, і ўжо на наступным тыдні нашых герояў рэйтынгу стане значна меней. Галасуй! Шэры слупок - «ЗА», белы - «СУПРАЦЬ».**



Выкарыстаныя фота IREX/ProMedia

# Затрымалі «Зуброў»

**У пятніцу, 13 ліпеня ў 19.00 на вуліцы Чырвонаармейскай затрыманыя два 15-гадовыя актывісты руху «Зубр».**

Як паведамілі ПАГОНІ затрыманыя «зубры» Яўген і Віктар, «Калі мы прымацавалі налепкі «Время выбирать!» на сцяну аднаго з будынкаў на гэтай вуліцы, да нас пад'ехалі міліцыянты. Яны загадалі вывернуць усё з нашай сумкі. Знайшлі там некалькі налепак і адвезлі ў аддзяленне Кастрычніцкага РАУСу, што па вуліцы Карбышава,3.

**Алесь Зарэмбюк**

# На кангрэсе моладзі пройдзе «Праймэрыз»

**Адміністрацыя Палаца Рэспублікі адмовіла арганізатарам Кангрэсу Беларускай Моладзі ў прадастаўленьні памяшканьня. Пасьля доўгіх пошукаў уладальніка Палаца (ім урэшце аказалася Галоўнае Ўпраўленьне Справаў Прэзыдэнта) заяўнікаў недвухсэнсоўна папярэдзілі: магчымасьць дазволу выключаная. Зараз перамовы зь Менгарвыканкамам аб правядзеньні найбуйнейшага моладзевага форуму вядуцца наконт Палаца культуры «Сукно». Зрэшты, напярэдадні выбараў Кангрэс Беларускай Моладзі, разьлічаны больш як на 1000 дэлегатаў і гасцьей, можа быць ўвогуле забаронены - у такім выпадку арганізатары гатовыя правесьці яго за горадам.**

Плянуецца, што сход пачнецца грандыёзнай моладзевай тусоўкай і шэрагам навучальных сэкцыяў: «Мабілізацыйная кампанія», «Агітацыя», «Псыхалёгія выбаршчыка», «Інфармацыйныя тэхналёгіі», «Праваабарона падчас выбараў», «Замежны досьвед кампаніяў» і г.д. Затым - урачыстае адкрыцьцё і выступы лідараў моладзевых арганізацыяў. Галоўнай інтрыгай Кангрэсу стануць «праймэрыз» - выступы найбольш верагодных дэмакратычных прэтэндэнтаў на прэзыдэнцкую пасаду і таемнае галасаваньне дэлегатаў - своеасаблівыя выбары «адзінага кандыдата ад моладзі».

«Калі да канца ліпеня ўдзельнікі прэзыдэнцкай гонкі не вызначацца з адзіным кандыдатам ад дэмакратычных сілаў, 29 ліпеня яго назаве моладзь!», - заявіў на апошнім Аргкамітэце лідар Маладога Фронту Павал Севярынец.

Тэлефоны для дадатковай інфармацыі: 264-18-45, (8-029) 602-77-60, тэл.-факс 284-50-12 (Павал Севярынец).

**Ул. інф.**

# Як карэспандэнт ПАГОНІ збіраў подпісы за Лукашэнку

**Маім кватэрным гідам стала Галіна Пранько, маладая, абаяльная і сур'ёзная прадаўшчыца універмага. Таму, калі дырэктар універмага спадар Коўшык выклікаў яе да сябе і сказаў: «Галя, ты маеш вялікі гонар сабраць подпісы за Аляксандра Лукашэнку», Галіна асабліва не вагалася. Нават нягледзячы на тое, што пры яе універмагаўскім заробку ў 56 тысяч, за новую працу, паводле Галіных словаў, яна не атрымае ні капейкі. Кіруе ініцыятыўнай групай у Гродне, ці як ласкава назвала яе Галіна, Цэнтрам, нехта спадар Хлябін з гарвыканкама. Сама Галіна яшчэ не вызначылася, за каго прагаласуе 9-га верасня, аднак на маё пытанне «ці задавальняе яе 56 тысяч заробку?» недвухсэнсоўна адказала: «Добра, што хоць і такі Лукашэнка стабільна плаціць».**

Дзяўчына, відавочна, адчула мой крайні скептыцызм, калі расказвала як актыўна аддаюць людзі свае подпісы за Лукашэнку. Таму вырашыла збіць мяне адразу з ног. «Хадзем на Ажэшкі,42». «Пайшлі», - адказаў я і спахмурнеў. Бо ведаў, што ў гэтым вялізным доме насупраць чыгункі збіральнікаў подпісаў за Лукашэнку сустрэнуць у абдымкі. Дом N42 у свой час лічыўся элітным. У 1973 годзе сюды засялялася наменклатура, што прыехала пераважна з усходу Беларусі ды Расеі.

Так і атрымалася: з дзесяці кватэраў, дзе адчынілі нам дзверы, подпісы Галіне пакінулі дзевяць чалавек.

Генадзь Мікітавіч, жвавенькі дзядок, цягне нас на кухню і кліча падпісацца таксама і сына.

- Ты што, баця?!» - 33-гадовы Сяргей выходзіць з ванны. - Што ён добрага зрабіў? Нічога! 100 даляраў абяцае, дык 100 даляраў цяпер, як бохан хлеба. Хацелася б верыць у нейкія змены. Але ж Лукашэнка ўсе роўна сфальсіфікуе выбары.

- А калі ўжо за Домаша будуць збіраць? - гэтыя словы Генадзя Мікітавіча прымушаюць мяне вярнуцца ў кватэру. - Я з ім разам працаваў на аўтакамбінаце, добра знаёмыя.

Дарэчы, з іншых, акрамя Лукашэнкі, кандыдатаў, жыхары дома N42 называлі пераважна Сямёна Домаша. Толькі адна жанчына была засмучаная тым, што зняла сваю кандыдатуру Машэрава. Ды яшчэ пенсіянерка ўзгадала, што збіраецца кандыдаваць нейкі амбасадар з прозвішчам на літару «М».

У наступнай кватэры я пашкадаваў, што задумаў гэтыя паходы за подпісамі. Мая спадарожніца войкнула, і я паспеў убачыць толькі вялізныя вочы ратвейлера Мораца. Але абыйшлося. Морац лянiва развярнуўся і знік на кухні. Валянціна Іванаўна, гаспадыня ратвейлера, пенсіянерка, ставіла подпіс за Лукашэнку са словамі:

- Пенсія малая, 63 тысячы, 570 рублёў, трэба плаціць за Мораца. Нявестка мая яшчэ менш за мяне атрымлівае. Калі нічога не купляць, апрача харчавання, яшчэ неяк жыць можна. Чаму ж я тады за Лукашэнку аддаю подпіс? А як жа ж! Стыхійных бедстваў у Беларусі няма, ды і мір у нас у краіне.

- Хто там? - чуем голас жанчыны з наступнай кватэры.

- Подпісы збіраем. За самага дастойнага кандыдата - правакую я суразмоўцу за дзвярыма.

- Я, канечне, лічу, што Лукашэнка таксама не дастойны. Але, за каго? Гэты хоць набраўся ўжо, мо красці больш не будзе - упэўнена ставіць подпіс Сафія Іванаўна.

- Гэта тыповы адказ, - тлумачыць мне Галіна, калі мы выходзім з гэтай кватэры. - Людзі галасуюць хоць і за кепскага, але вядомага кандыдата.

- За каго збіраеце?! - грозны голас жанчыны, якая, адчуваецца, не мае намеру нават нас слухаць.

- За Аляксандра Лукашэнку - крыху збянтэжана адказвае Галя.

- Ой, пачакайце, дзетачкі, хвіліначку, я зараз адчыню, - я адчуваю, як жанчына за дзвярыма проста млее, пачуўшы прозвішча свайго ідала.

- Гэта ж мой зямляк! А хто гэта ў нашым доме не падпісаўся за Лукашэнку? Гэта контра. Супраць Лукашэнкі - гэта контра, - Галіна Сяргееўна, не саромеючыся, граміць палітычных апанентаў.

Галіна Сяргееўна цяпер часта п'е валяр'янку.

- Толькі-толькі выйшла на пенсію, і 60 тысяч пенсіі, - бядуе яна, - катастрафічна не хапае. Як я буду жыць далей, не ведаю, нават не ўяўляю, - Галіна Сяргееўна распісваецца, і мы пакідаем гаспадыню сам-насам з яе праблемай.

Заходзіць у наступны пад'езд ахвоты ўжо не было ані ў мяне, ані ў сяброў ініцыятыўнай групы Аляксандра Лукашэнкі.

Дзіўнае ўражанне засталося ад наведвання гэтага дома, якіх шмат і ў Гродне, і ў Беларусі. Жыхары такіх дамоў ёсць люстраным адбіткам Лукашэнкі ў беларускім грамадстве, прадуктам лукашэнкаўскай палітыкі. Перабіраючы, блытаючы прозвішчы магчымых кандыдатаў, яны зноў прагаласуюць за яго, але ўжо не таму, што ён свой, а толькі таму, што за восем тыдняў да выбараў ніяк не могуць пачуць прозвішча аднай сур'ёзнай альтэрнатывы.

**Павал Мажэйка**

# Невядомая Літва

**Што мы ведаем пра сённяшнюю Літву? Штампы. Маўляў, няма калгасаў, дорага плаціць за кватэру, а яшчэ літоўцы ўступаюць у NATO. Напачатку ліпеня рэпарцёр ПАГОНІ меў магчымасць пазнаёміцца з жыццём сучаснай Літвы непасрэдна. Сваімі ўражаннямі і сабранымі фактамі ён дзеліцца з чытачамі.**

## Літоўцы будуць купляць у нас пясок

Хто з гарадзенцаў не пабываў у Друскеніках і Алітусе! У студэнцкія гады, памятаю, мы ездзілі туды папіць піўка ды пабадзяцца па маляўнічых узгорках ля возера. Незабыўныя паездкі за каўбасой, сырам ды іншымі харчамі. Напрыканцы 80-х гадоў шлях Гродна-Друскенікі нават жартам называлі «дарога жыцця».

Сёння ў Друскеніках беларуская прысутнасць амаль не адчуваецца. Ёсць толькі дзве выразныя яе праявы. Гэта санаторый «Беларусь» (уласнасць нашай дзяржавы) і базар Лукашэнкі. Апошнія два словы браць у двукоссе непатрэбна. Гэтая назва стала ў літоўскай мове афіцыйнай. У газетах, на радыё і тэлебачанні так і гаворыцца: базар Лукашэнкі, калі гутарка заходзіць пра маленькі рыначак на ўскрайку Друскенікаў. Гандлююць тут пераважна гарадзенцы. Тавар звыштанны. Плюс кантрабанда: гарэлка, цыгарэты, бензін. Адпаведны і пакупнік - літоўскія жабракі.

Напрыканцы чэрвеня паміж Гроднам і Друскенікамі была падпісаная дамова аб супрацоўніцтве тэрмінам на тры гады (чаму на тры?). Мэр Друскенікаў Р.Малінаўскас вельмі спадзяецца на гэтую дамову. «Мне ўсё роўна, з кім гандляваць, абы было танней і горад мог зэканоміць грошы», - кажа ён. Мэр хацеў бы закупаць у гарадзенцаў жвір і пясок для будаўніцтва, а таксама забяспечваць праз наш горад свае Друскенікі газам.

Дамова прадугледжвае таксама культурнае супрацоўніцтва. Напрыклад, на свяце горада Друскенікі ў апошні ўікэнд чэрвеня іграў гарадзенскі аркестр. Чакаецца абмен журналістамі, перадача адно аднаму карыснай інфармацыі.

## Парк «Грута»

Мэр Друскенікаў Малінаўскас заслугоўвае асобнага аповеду. Ён - чалавек багаты, хаця і з'яўляецца сябрам партыі сацыял-дэмакратаў (А.Бразаўскаса). Разам з бацькам Малінаўскас зрабіў файны бізнес на грыбах-лісічках. Частку прыбытку яны ўклалі ў стварэнне парка-музея «Грута».

У гэты парк каля Друскенікаў яны звозяць з усёй Літвы помнікі савецкім правадырам, усялякім леніным, снечкусам і чарняхоўскім. Літоўскія правыя (палітычнага спектру) вельмі крытыкавалі Малінаўскасаў, спрабавалі забараніць стварэнне парку, які, на іх думку, праслаўляе савецкае мінулае і робіць бізнес на ахвярах камунізму. Аднак, парк развіваецца, увесь дзень там поўна турыстаў. У бары можна заказаць бляяш, кактэйль «Сляза чэкіста», катлету «Бывай, маладосць». Малінаўскасы хацелі праклáсці ў парку чыгунку, па якой хадзілі б сталінскія «цяплушкі», якія перавозілі ў свой час вязняў ГУЛАГу. Але вось гэта правыя яму ўжо не дазволілі. У адказ Малінаўскасы змясцілі ў сваім парку драўляныя скульптуры-карыкатуры некаторых асабліва актыўных правых.



Фрагменты экспазіцыі парка «Грута»

## Колькі літоўцы плоцяць за кватэру?

Ці багата жывуць літоўцы? На гэтае пытанне трэба адказаць так: па-рознаму. Ёсць людзі вельмі багатыя, той жа ўзгаданы Малінаўскас. Ёсць вельмі бедныя, напрыклад, беспрацоўныя, памер выплаты якім - каля 60-ці даляраў (узровень беспрацоўя складае больш за 15 працэнтаў).

Усе астатнія - штосьці блізкае да сярэдняга класа, толькі бяднейшыя. Для прыкладу возьмем сям'ю двух настаўнікаў, якія жывуць у дзвюхпакаёвай кватэры. Заробак кожнага - 250 даляраў, з якіх трэціна ідзе ў сацыяльныя фонды. Узімку трэба плаціць за ацяпленне 30-35 даляраў на месяц. Плюс 5,5 даляра за змеявік, што ў ванне (узімку і ўлетку). За гарачую ваду - па 2,5 даляра за кубічны метр, за халодную - па 90 цэнтаў за кубічны метр (натуральна, абавязковы лічыльнік). За свет - па 10 цэнтаў за кілават. За газ - 20 цэнтаў за кубічны метр. За тэлефон - 25 цэнтаў за хвіліну і 4 даляры - абаненцкая плата.

Карацей, узімку атрымліваецца каля 100 даляраў усіх плацяжоў «за кватэру», улетку - 20-30 даляраў.

Шматпавярховыя дамы, «шпакоўні», практычна не будуюцца. Бо няма попыту. Людзі будуюць прыватныя хаты, альбо катэджы. У разуменні літоўца катэдж - гэта дом на некалькі кватэраў, часам з агародным надзелам. Цэны на дамы надзвычай высокія - да 100 тысяч даляраў за такія, якія саступаюць нашым, пабудаваным у Баранавічах ці Зарыцы. А вось за трохпакаёвую кватэру ў Алітусе (70 тысяч чалавек насельніцтва) возьмуць 7-8 тысяч даляраў, за дзвюхпакаёвую - 5 тысяч даляраў.



Такі помнік чалавеку, падобнаму да Лукашэнкі, стаіць на цэнтральнай плошчы Алітуса. Аўтар скульптуры — мастак Рэдас Дзіржыс

## Ці ёсць у Літве нацыянальнае пытанне?

Трэба адказаць адразу: няма. Рускамоўныя смела і гучна размаўляюць на вуліцах, і гэта нікога не абурае. З іншага боку, літоўская моладзь амаль не гаворыць па-руску. Неяк дзіўнавата, як на наш досвед. Але - не гаворыць, і ўсё.

У літоўцаў сталага веку застаўся нейкі сантымент да савецкіх часоў. Не тое, каб яны хацелі вярнуцца ў СССР. Але яны пачалі цаніць тое, што страцілі пасля набыцця незалежнасці, асабліва сацыяльныя гарантыі, якія існавалі за камуністамі. Такія настроі ўласцівыя людзям бедным, пенсіянерам (сярэдняя пенсія складае 80 даляраў). Давялося пачуць ад аднаго люмпена і такую фразу: «У Беларусі - Лукашэнка, ён добры. У вас гарэлка каштуе шэсць літаў (1,5 даляры- **заўвага аўт.**)». Да ведама чытача: у Літве гарэлка не танней за пяць даляраў.

- Нацыянальнага ўціску мы не адчуваем, - кажа старшыня алітускай суполкі нацыянальных меншасцяў Надзея Кракоўская, жыдоўка па нацыянальнасці. - У нас іншая турбота. Наша моладзь імкліва абліітоўваецца.

Ці праўда, што літоўская сацыял-дэмакратыя і новы ўрад А.Бразаўскаса становіча ставяцца да ўдзелу ў Саюзе незалежных дзяржаваў (СНД)? «Глупства», - так на гэтае пытанне адказаў дэпутат Сейма сацдэк Ю.Сабатаўскас.

Прыклад этнічнай і рэлігійнай талерантнасці: у Алітус па прастольных святах з Друскенікаў прыязджае служыць праваслаўны бацюшка Уладзімір. Імша адбываецца ў адным з касцёлаў, бо царквы ў Алітусе няма.

## Літва хоча ў Саюз

Паводле апошніх апытанняў (чэрвень гэтага года), у Еўрасаюз хочуць уступіць 50 працэнтаў літоўцаў. Супраць уступлення - 27 працэнтаў. Каля 16 працэнтаў - «абсалютныя еўраскептыкі», пераважна аграрыі. Парламент і ўрад паставілі за мэту ўступіць у ЕС да 2004 года.

- Літва за апошнія гады стала цвярозей у адносінах да Еўрасаюза, - гаворыць алітускі пісьменнік Петрас Нарашкявічус. - ЕС грошы дае, ды сам іх і з'ядае. Еўропа адкрылася, але ж селянін туды не паедзе.

У краіне працуе дзевяць пунктаў, мэта якіх - прапагандаваць ідэю ўступлення ў Еўрасаюз. «Мы цяпер даганяем эстонцаў, хочам патрапіць у першую хвалю новага папаўнення ЕС», - тлумачыць кіраўнічка алітускага цэнтра інфармацыі І.Лескавічэне. У Друскеніках па ўзоры шведскага досведу створаны саюз мясцовых самакіраванняў Ladruva (Лаздзіяй, Друскенікі, Варэна). Увогуле лічыцца, што Швецыя стане лакаматывам, які пацягне Літву ў ЕС.

Не цураюцца літоўцы і стасункаў з Беларуссю. Напрыклад, усюды можна купіць беларускую мінеральную ваду «Дарыда».

- Неяк у Алітус прыязджалі хлопцы з Гродна, вялі перамовы наконт пабудовы прадпрыемства па вырабу коркаў для пластыкавых бутэлек. Але чамусьці зніклі. Можа, яшчэ вернуцца, - расказвае Відас Шчыглінскі, намеснік дырэктара алітускага кансультатыўнага бізнес-цэнтра. - Усяго ў нашым рэгіёне шэсць тысяч прадпрыемстваў. «Жывыя» - дзве трэціны. Перад уступленнем у ЕС, паводле плана, Літва атрымае дапамогу ў памеры 100 мільёнаў еўра штогод на рэструктурызацыю сельскай гаспадаркі.

Ці ведаюць гарадзенцы, чаму ў гэтым годзе няма машкары (гнюсу)? Бо літоўцы патруцілі месцы яго развядзення ў Нёмане не толькі на сваёй тэрыторыі, але і на 40 кіламетраў вышэй па цячэнні на нашым баку.

## Літоўцы і балтарусы

Балтарусы па-літоўску - гэта мы. Адносіны да нас добрыя. У алітускім рэгіёне з асаблівай прыемнасцю ўзгадваюць гарадзенцаў. Шкадуюць, што нарабілі межаў, і цяпер цяжка сябраваць.

Пра тое, што ў старажытным Вялікім княстве Літоўскім справаводства вялося па-беларуску, у Літве мала хто ведае. У музеі Трокаў выстаўлены Статут ВКЛ, але чамусьці на польскай мове. У арыгінале статуты пісаліся пабеларуску і на лаціне. Першая кніга на літоўскай мове выйшла ў 1547 годзе («Catechismus»). З пачатку XVIII стагоддзя пачалося апалячванне. А на якой мове пісалі да 1547 года?

Спробы прысабечыць усю спадчыну ВКЛ выглядаюць, шчыра кажучы, камічна. Але і мы, калі глядзець іхнімі вачыма, не меншыя дзівакі. Асабліва дастаецца А.Лукашэнку. Цень ад ягонай самабытнай асобы падае на ўсіх беларусаў.

Ёсць і тыя, хто паважае А.Лукашэнку за тое, што «навёў парадак». «У нас у Літве чыноўнікаў шмат. Раз'язджаюць на машынах. Нічога не вырашаюць. Бо дзяржаўнага сектару ў эканоміцы больш няма, калгасаў няма. Навошта іх столькі?», - перадае такія настроі літаратар П.Нарашкявічус.

## Эпілог

У Літве давялося пачуць такую думку. Калі суседзі варагуюць, то гэтым карыстаецца нехта трэці. Мы з Літвой не варагуем. Але паводзім сябе так, нібыта ва ўпор не бачым адно аднаго.

«Дык вып'ем за добрасуседства», - такіх тостаў мне давялося пачуць за дзесяць дзён, праведзеных у Літве, шмат.

**Сяргей Сноп**

# Не ўсе беларусы талерантныя...

**Дагэтуль мы ведалі Сямёна Шарэцкага як палітычнага дзеяча, былога старшыню Вярхоўнага Савета Беларусі, вучонага. Ратуючыся ад пераследу з боку сучасных беларускіх уладаў, ён тэрмінова з'ехаў у суседнюю Літву, а цяпер у ЗША. За мінулы час надрукаваў у незалежных СМІ дзесяткі артыкулаў, некалькі зборнікаў.**

Апошняй па часе кнігай Сямёна Шарэцкага сталася пад назвай "Іх лёсы звязаны з Вільняй". Гэта расповед пра жыццё асобных беларускіх палітыкаў, якім давялося змагацца за адраджэнне сваёй нацыянальнай дзяржавы, але культуры, знаходзячыся па-за межамі роднага краю.

Мемуарнай літаратуры наогул мала выдавалася ў нашай краіне. Хаця асобаў, жыццёвы шлях якіх можа паслужыць прыкладам для многіх пакаленняў, дастаткова. Іншых напросту вывозілі ў сталінскія лагеры. Нямала было людзей, якія шукалі паратунку. Многія аселі ў Вільні. Вось пра гэтых выбітных беларусаў і гаворыць Сямён Шарэцкі ў сваёй кнізе.

Нарыс "Змагар за беларускасць" прысвечаны вядомаму грамадскаму актывісту Хведару Нюньку. Жыццё гэтага чалавека паказана ад дзядоў-прадзедаў. Пакручасты лёс самога Хведара засведчыў пра яго моцны характар. Бацькі пераехалі ў Вільню са Шчучына ў канцы 1943 года.

У 1988 годзе Хведар упершыню прысутнічаў на паседжанні клуба аматарскай самадзейнасці «Сябрына», створанага Зоськай Верас. Знаёмства з патрыятычна настроенымі беларусамі прывяло да актыўнай уласнай дзейнасці. Хутка ён узначаліў Таварыства Беларускай Культуры. І сёння гэты чалавек у страі.

Партрэтны нарыс "Жыццё для другіх" прысвечаны Ніне Брылеўскай. Беларуская дзяўчына перажыла вайну, працавала ў школе, вучылася ў Лідскім педвучылішчы. Але яе бацькі былі ў высылцы, куды трапілі, "дзякуючы" бальшавікам, старэйшы брат апынуўся за мяжой. Ніну сталі пераследаваць як "члена сям'і ворага народа". З работы прагналі, з вучэльні таксама. Знайшла куток у Вільні. Працавала бібліятэкарам. Актывістка Таварыства Беларускай Культуры ў Літве.

Дакументальная аповесць "Арол і чайка" найбольш удалася аўтару. Гэта маштабны твор. Не ва ўсім роўны, аднак прыцягальны. Аповед вядзецца пра Кастуся Шышэю з-пад вёскі Шчорсы, што на Навагрудчыне. У час вайны пагадзіўся з прапановай Барыса Рагулі і стаў вайскоўцам Першага Беларускага эскадрона. У нямецкім горадзе Дальвіц прайшоў курс падрыхтоўкі дэсантнікаў. Быў закінуты ў СССР. Затрыманы і асуджаны на 10 гадоў.

Сямёну Шарэцкаму ўдалося перадаць паўсядзённы побыт зняволеных, іх нечалавечыя ўмовы жыцця, складаныя ўзаемаадносіны. Дакументальнасць надае глыбіню твору. Падрабязныя звесткі пра турэмныя норавы, жорсткасць адміністрацыі, панаванне крымінальнікаў у лагеры для палітычных даюць магчымасць пабачыць Архіпелаг ГУЛАГ не вачыма белетрыста, а асуджанага, паводле яго ўспамінаў. Шмат трапляецца карыснай інфармацыі: перапіска з Ларысай Геніюш і сустрэча з ёю, сустрэчы і размовы з былымі беларускімі патрыётамі, таксама асуджанымі; развагі пра тое, што выжыць дапамаглі кемлівасць, калектывізм аднадумцаў, дапамога іншаму...

Кастусь Шышэя жыве ў Вільні. Ён адразу знайшоў знаёмых беларусаў. Савецкая ўлада не адпусціла яго на пахаванне маці і сястры, якія памерлі ў Англіі, брата – грамадзяніна ЗША. А вось у Зэльву на адведзіны Ларысы Геніюш ён у свой час даехаў.

**Антон Лабовіч**

# Праблемы жыхароў вуліцы Суворава будуць вырашаныя. Потым. Калі знойдуцца грошы...

**Усяго па 10-12 тысяч рублёў страхоўкі атрымаюць жыхары затопленых ужо другі раз за мінулы тыдзень 12-ці жылых дамоў па вуліцы Суворава, што ў Гродне. Пра гэта ахвярам стыхіі паведаміў прадстаўнік дзяржаўнай страхавой кампаніі Белдзяржстрах.**

Прычынай другога патопу, які пачаўся суботнім вечарам, 14 ліпеня а 18-й гадзіне, паслужыў дождж і забіты каналізацыйны калектар на Палестыне, які ўжо не чысцілі чатыры гады. Акрамя вуліцы Суворава, падчас моцнага ліўня быў затоплены шэраг дамоў на Чырвонапартызанскай, Церашковай, Чырвонаармейскай і на трэцім завулку Куйбышава. 16 жыхароў былі тэрмінова эвакуяваныя ў гатэль «Беларусь». Пажарнікам і службе Міністэрства па надзвычайных сітуацыях давялося адкачваць ваду, чысціць засмечаныя ліўневыя сцёкі і пракладваць каналы для адводу вады. У мэтах бяспекі былі адключаныя 15 трансфарматарных падстанцыяў, апошняя з якіх запрацавала толькі апоўдні наступнага дня.

У суботу пасля гэтага інцыдэнту каля 30 жыхароў, дамы якіх затапіла, перакрылі на вуліцы Суворава дарожны рух і патрабавалі сустрэчы з прадстаўнікамі гарадзенскіх уладаў, адмаўляючыся ехаць у гатэль «Беларусь», куды іх хацелі эвакуяваць. Пасля дзвюх гадзін супрацьстаяння з кіроўцамі прыватных аўтамабіляў і гарадскога грамадскага транспарту да пацярпелых прыехала намесніца старшыні Адміністрацыі Кастрычніцкага раёна па сацыяльных пытаннях Ганна Карней. Яна падпісала акт аб затапленні жылых памяшканняў і праінфармавала людзей аб тым, што ў панядзелак а 14-й гадзіне пройдзе пасяджэнне адміністрацыі Кастрычніцкага раёна па вырашэнню гэтага пытання. Акрамя яе, у той злашчасны вечар пабываў на месцы затапленя адзін з намеснікаў старшыні гарвыканкама Сяргей Анішчык.

Калі я паспрабаваў прыйсці на пасяджэнне гэтай камісіі, міліцыянты Аляксандр Давыдзік ды ягоны калега (які не прадставіўся), што дзяжурылі ў гэты дзень у будынку адміністрацыі Кастрычніцкага раёна, не пусцілі мяне ў залу пасяджэнняў. Вартавыя парадку матывавалі гэта тым, што ў мяне несапраўднае пасведчанне і параілі папярэдне запісацца на размову да старшыні адміністрацыі Кастрычніцкага раёна спадара Нікалайчыка.

- Каналізацыйны калектар будзе пачышчаны, таксама будзе разгядацца пытанне наконт пабудовы новага калектара. Зараз у гарадскім бюджэце пад гэта не прадугледжана фінансавых сродкаў. Але ж я буду займацца вырашэннем гэтага пытання ў меру магчымасцяў і кампетэнтнасці, - паведаміў ПАГОНІ сябра гарадской камісіі па надзвычайных сітуацыях і першы намеснік старшыні адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Сцяпан Сяргей, які наведаў дамы пацярпелых і каналізацыйны калектар на Палестыне ў панядзелак.

У аўторак каналізацыйны калектар на Палестыне пачысцілі. Аднак гэта не гарантуе жыхарам вуліцы Суворава, што калі пойдзе наступны дождж іх ізноў не затопіць. Пацярпелыя падпісалі заяву з патрабаваннем вырашэння гэтага пытання, якую перадалі старшыні гарвыканкама Анатолю Пашкевічу. Чакаючы адказу, яны сушаць рэчы і мэблю. Праўда, рамонт рабіць не спяшаюцца, бо метэаролагі хутка ізноў абяцаюць дажджы.

**Алесь Зарэмбюк**




# Пізанская вежа ў Ваўкавыску

**Жыхары дома нумар 79 па вуліцы Кастрычніцкай, што ў Ваўкавыску, жывуць, як у смутныя часы сярэднявечча. Свой трохкватэрны драўляны дом яны называюць гнілым баракам, што пры першым знаёмстве вельмі падобна на ісціну.**

Я прыехала ў Ваўкавыск па просьбе сям'і Буданавых. Паводле словаў Наталлі Буданавай, «племянная свіння на сучасных аўтаматызаваных фермах з цаглянымі хлявамі ды аўтаматызаванай падачай ежы жыве лепш, чым ,мы, людзі». Карціна, што адкрылася ў гасцях, магла і шакаваць. Дом, у якім жыве тры сям'і, пабудаваны яшчэ да 1939 года на забалочанай зямлі. Сёння ад смуродных выпарэнняў тарфянога двара цяжкі пах б'е ў нос і ў хаце і вымушае стрымліваць дыханне. У кожным пакоі шпалеры вісяць адарваныя ў кутах, расколіны ідуць па столі і сценах. Шчыліны паміж падлогай і сценамі замазаныя цэментам, які тут жа адвальваецца. Ва ўсіх кутах - цвілыя мокрыя пляміны ад вільгаці. У доме пячное ацяпленне, вулічная прыбіральня ў пятніцу «выйшла з сябе», і яе разабралі. Памыцца няма дзе - бліжэйшая грамадская лазня на замку. Карацей, «ні памыцца, ні па...адь».

- Наш дом даўно ўжо не падлягае ніякаму рамонту, санстанцыя забараніла нам нават падымацца на гарышча, бо ў нас два разы абвальвалася столь і гарышча можа праваліцца, усе бэлькі даўно прагнілі. Дом стаіць наўскос, як пізанская вежа - жыць тут проста небяспечна. Па нармальных нормах, яго даўно пара знесці, аднак тады нас вышэйшы пастаўленых спрашвае у дзеянці. Я звярнулася ў выканкам з заявай, каб наш дом прызналі непрыдатным для пражывання. І што вы думаеце? Дом прызналі «прыдатным да пражывання, але неадпавядаючым санітарна-тэхнічным нормам». Вы вось мне растлумачыць можаце, як гэта: нормам не адпавядае, а жыць можна? Трэцяе тысячагоддзе на дварэ, а мы жывем у пячорным веку! Каб дзяржава была сапраўды зацікаўленая ў здароўі нацыі, такога б і блізка не было. Калі з мяне на кожным кроку патрабуюць выканання ўсіх і ўсялякіх нормаў і законаў, то чаму я, як шэраговая грамадзянка, не магу абараніць свае самыя надзённыя правы - жыць у нармальных чалавечых умовах?

У заключэнні санэпідэмстанцыі пра стан дома гаворыцца: «Дом пабудаваны... на забалочанай мясцовасці; падмурак прасеў, даў расколіны, сцены і столь у трэшчынах. У пакоях сляды вільгаці - сцены пацямнелыя, на дотык куты сцен сырыя».

Як нам патлумачылі ў жыллёва-камунальным аддзеле Ваўкавыскага гарвыканкама, каб прызнаць дом непрыдатным для пражывання, працэнт ягонага зносу павінен перавышаць 65 працэнтаў. Як заўважыла галоўны спецыяліст аддзела, гэта значыць, дом павінен амаль развальвацца. А ў Буданавых працэнт зносу вызначаны ў 60,06 працэнта - значыць, да разбурэння не хапае чатырох працэнтаў. Усё, што змаглі зрабіць улады для жыхароў «пізанскай вежы» у Ваўкавыску, - гэта паставіць на чаргу на атрыманне крэдыту на пабудову кааператыву. Цяпер Буданавы стаяць у чарзе пад 859-м нумарам, што дае надзею праз які дзесятак гадоў атрымаць крэдыт.

Аднак, гаспадыня не надта радуецца такой перспектыве - невядома, што здарыцца першым: ці дом лясне, ці чарга падыдзе... Самае цікавае, што такі стан справаў нікога асабліва не здзіўляе. У ЖЭСе, да якога належыць злашчасны барак, нам сказалі так: калі пакінулі будаваць сацыяльнае жыллё - усе забыліся, што такое знос старых будынінаў. Са 186-ці дамоў ЖЭСа загадчыца ўчастка налічыла 101 (!) маламерку, што знаходзяцца прыкладна ў такім стане, як і хата Буданавых. Найчасцейшы адказ на ўсе заявы Наталлі Буданавай ад уладных структураў такі: а што Вы скандаліце? Усе так жывуць. У дзяржаве крызіс, усім цяжка, трэба эканоміць. У доме з выгодамі ўсе хочуць жыць.

А мараль гэтай байкі вось якая: мы не будзем жыць у «эўрапейскай» краіне, пакуль шэраговы грамадзянін не зможа жыць так, як напісана ў Канстытуцыі - заможна і годна.

**Алена Сіневіч**

# Куды падзеўся цукар?

**Падобна на тое, што беларуская ўлада, якая апошнім часам захапілася наладжваннем «балаў падчас чумы» ў выглядзе разнастайных парадаў, дзён вызвалення і святаў горада, штучна стварыла дэфіцыт цукру, каб выклікаць ажыятаж сярод насельніцтва і падвысіць кошт на банальны, але вельмі неабходны ў «ягадны» перыяд прадукт.**

Праблемы з цукрам у Беларусі існавалі і раней, але колькі гадоў запар сімптаматычным стала ягонае знікненне акурат улетку, калі насельніцтва нарыхтоўвае ягады, варыць сочыва, павідла ды іншыя прысмакі. Праблема ў Гродне абвастрылася ў гэты панядзелак, пасля нядзельнай пагулянкі - «Свята горада». Я адмыслова тры дні наведваў прадуктовыя крамы ў сваім мікрараёне (вуліца Каліноўскага, Фарты, БЛК, вуліца Горкага), але нідзе цукру не было. Прадаўшчыцы недаўменна пацiскалі плячыма на запыты кліентаў. Спацелыя пакупнікі ў роспачы або лаяліся, або стрымгалоў выбягалі з адных душных крамаў, каб паўтарыць бессэнсоўную працэдуру пошуку цукру ў іншых.

- А каб яны халеры дасталі з гэтым цукрам, - крычыць сівы хударлявы пенсіянер у краме па вуліцы Каліноўскага. - Назбіраў вішняў, дык зараз у такую спякоту ўсё пакісне...

- Я як у ваду глядзела - купіла мех цукру на рынку яшчэ ўзімку, бо ведала, што гэтыя бюракраты штогод учыняюць бардак з цукрам, - гаворыць мая суседка Ніна Пятроўна.

Як заўсёды ў такіх выпадках, дэфіцыт цукру ў дзяржаўных прадуктовых крамах, аказаўся «на руку» прыватным гандлярам і звычайным спекулянтам, якія, у адрозненне ад мясцовых уладаў, падрыхтаваныя да любога «бардаку». Яны і разгарнулі гандаль цукрам на Скідальскім рынку і нават на вуліцы Савецкай (кошт 50-кілаграмовага мяху цукру - 32-34 тысячы рублёў, што на 2-4 тысячы даражэй, чым у крамах).

Што ж робяць для вырашэння праблемы дзяржаўныя ўстановы? Я звярнуўся па тлумачэнні да начальніка Упраўлення гархарчгандлю гарвыканкама Уладзіміра Стомы. Але таварыш Стома не схацеў нічога талковага сказаць, маўляў, усёй інфармацый валодае прэс-служба гарвыканкама. Ну, а ў прэс-службе паведамілі, што так у нас заўсёды ўлетку, што людзі робяць нарыхтоўкі ягадаў, садавіны, купляюць цукар мяхамі, адсюль і дэфіцыт. Цікава, як гэта яны купляюць цукар мяхамі ў крамах, калі там норма адпуску - два кіло на чалавека?

Крыху святла праліла на праблему таваразнаўца гандлёвага аддзела гархарчгандлю Аліна Качаноўская:

- Дэфіцыт цукру ў горадзе выкліканы недастатковасцю нашых фондаў. Цукар нам пастаўляе менская фірма «Белая Русь». Аднак яны недапаставілі значную колькасць прадукту. У ліпені колькасць атрыманага цукру склала 45 тонаў (што яўна недастаткова), якія мы рэалізоўваем праз крамы нашай гандлёвай сістэмы «Прадсэрвіс». А такіх крамаў у горадзе маем толькі дзевяць. Другія крамы маюць іншых пастаўшчыкоў.

Аднак цукру ў дастатковай колькасці няма ва ўсіх крамах. Калі ён з'яўляецца - выстройваюцца даўжэзныя чэргі, і на ўсіх яго не хапае, нават калі прадаюць кіло цукру на чалавека. Дзіўна, што маем побач у Скідалі цукровы завод, а цукру няма.

У нядзельным «святочным інтэрв'ю» гарадзенскай тэлевізіі старшыня гарвыканкама Анатоль Пашкевіч з радасцю адзначыў, маўляў, вось бачыце, як у нас усё цудоўна, бо «той хто ўмее добра працаваць, той умее і добра адпачываць». У тым, што нашыя вертыкальшчыкі ўмеюць «добра адпачываць», я не сумняваюся, а вось вырашыць смешнае пытанне са штогадовым дэфіцытам цукру яны не ўмеюць.

**Ігар Гандлеўскі**

# Анатоль Кузьма: «Я адыйду сам»

**З крыніцаў, блізкіх да Гарадзенскага аблвыканкама, ПАГОНІ стала вядома, што будзе зняты са сваёй пасады Анатоль Кузьма, старшыня Свіслацкага раённага выканаўчага камітэта. Прычым зняты з трэскам, пасля жорсткага разносу, учыненага яму кіраўніком вобласці Уладзімірам Саўчанкам.**

У сераду Анатоль Кузьма ў тэлефоннай размове абверг нам гэтыя чуткі, пры гэтым падкрэсліў, што яму «ніхто не прапаноўваў пакінуць пасаду».

- Як Вы чуеце, я знаходжуся на працоўным месцы. І ў ранзе старшыні райвыканкама. Я сам ужо даўно збіраюся пакінуць пасаду. Мне ўжо 62 гады, «пора и честь знать», - растлумачыў ПАГОНІ Анатоль Кузьма.

Абверг Анатоль Кузьма і інфармацыю пра нібыта кадравыя разборкі, якія часта праводзіць Уладзімір Саўчанка.

- Уладзімір Ягоравіч яшчэ нікому не зрабіў нічога дрэннага. Ён вельмі добры і мягкі чалавек. Вельмі беражліва ставіцца да кадраў.

Нагадаем, што днямі на сваіх пасадах былі зацверджаны новыя старшыні двух райвыканкамаў: Смаргонскага - Станіслаў Юргель і Шчучынскага - Сяргей Ушкевіч.

**Павал Мажэйка**

